Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 25 13-19 кастрычнка 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Мікалай Субач, кіруючы чыгуначным матавозам, не вязаў лыка. Але нічога не баяўся. Бо ён – дэпутат.

***У панядзелак начальнік Гудагайскага лінейнага пункта міліцыі старшы лейтэнант Сяргей Васілевіч сеў на станцыі Смаргонь разам з рабочымі-чыгуначнікамі на спадарожны матавоз у бок Маладзечна, але не чакаў убачыць тое, што ўбачыў. Ледзь варушачы языком, хістаючыся ў бакі, машыніст вёў па рэйках матавоз.***

- Я не паверыў адразу,– тлумачыць Сяргей Міхайлавіч,– што можна такое ўбачыць. Да таго ж, як кіруюць матавозам? Адзін чалавек сочыць за чыгункай, сігналамі святлафора і па сувязі перадае непасрэдна машыністу, які дарогі перад матавозам не бачыць. І вось Субач, паўтараючы: "зялёны, чырвоны", кіраваў, калі так можна сказаць, гэтым транспартным сродкам.

Калі ж у Маладзечне гаракіроўцу міліцыя знімала з матавоза, той, мякка кажучы, не стаў слухацца вартаўнікоў парадку. Прыйшлося надзець на п'яніцу наручнікі. Хаця той і крычаў:

– А нічога вы мне не зробіце. Я дэпутат!

Урачом Маладзечанскага гарадскога псіханеўралагічнага диспансера А. Буцько ў пратаколе № 565 ад 9 кастрычніка засведчана, што "паходка, стаянне ў позе Ромберга – няўстойлівыя". Гэта, калі тлумачыць простай чалавечай мовай, азначае – чалавек "у кандыцыі", стаяць роўна не здолее. Пратакол жа бясстрасны. Ён сцвярджае: "Дакладныя рухі, пальцаназавая проба – з прамахваннем". І заключэнне – сярэдняя ступень ап'янення.

І сапраўды, спадару Субачу нічога не зрабілі. Суддзя гарадскога суда сп. Лубешка не мог ніяк адрэагаваць па закону на п'яны дэбош, засведчаны ў пратаколе аб правапарушэнні. П'яніца сапраўды аказаўся дэпутатам Маладзечанскага гарадскога Савета. Імунітэт!

Я цяпер з вялікім апасеннем буду ездзіць чыгуначным транспартам! А раптам нехта кіруе лакаматывам "пад мухай"? Чым д'ябал не жартуе!

А Мікапая Субача, 1942 года нараджэння, ураджэнца вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна, сем'яніна, начальніка машыны з Маладзечанскай дыстанцыі пуці адпусцілі з богам. Дэпутат! Вось толькі рукі ў міліцыянераў пасля знаёмства з ім засталіся абадранымі – дэпутат за здорава жывеш не здасца нейкай там лінейнай міліцыі.

***Мікола ГАЙДУК***

## Мёртвая вёска

### ... Дамы і надворныя пабудовы тут увабралі ў сябе такую колькасць радыеактыўных часціц, што самі сталі мікрарэактарамі.



**ВАЛОЖЫН.** ***Штогод з карты Валожынскага раёна натуральным шляхам знікаюць аднадзве вёскі: памірае апошні жыхар ці нязначная іх колькасць перасяляецца ў іншыя месцы.***



А вось гэта дарога – 1 кіламетр у бок ад шашы Валожын–Івянец - вядзе ў мёртвую вёску Родзькі. У зону. Зону самай высокай у раёне радыеактыўнай забруджанасці. Некалі тут жылі людзі, некалькі сем'яў. Чуліся, як водзіцца, дзіцячыя галасы. Цяпер гэтыя людзі атрымалі статус перасяленцаў і назаўсёды пазбаўлены бацькаўшчыны.

А родны дом – вось ён, рукой падаць - ператварыўся ў самага страшэннага смяротнага, але нябачнага ворага. Пакідалі вёску, як некалі беглі, хаваліся ад гітлераўцаў. Відаць кінутыя драбіны, іншыя прылады сельскагаспадарчай працы. Ззяюць паўвыбітымі шыбамі вокны дамоў. Ці то вецер, ці то людзі, а можа звяры пагаспадарылі тут. Павалены дрэвы, агароджа. Мёртвая вёска нікога не чакае.

Спецыялісты паведамляюць, што дамы і надворныя пабудовы ўвабралі ў сябе такую колькасць радыеактыўных часціц, што самі сталі мікрарэактарамі. Проста спаліць іх немагчыма, бо ў такім выпадку Еўропа атрымае другі Чарнобыль. Пакуль што няма і іншай магчымасці сцерці іх з твару зямлі ...

Але, як бы кідаючы выклік усяму гэтаму, зямля на дзіва красавалася мінулым летам. Буялі зялянінай няскошаныя травы, а налітыя сонейкам ружавашчокія яблычкі і цяпер яшчэ бавяць вока.

Давіць, насцярожвае цішыня. Кожны гук, слова аддаюцца рэхам. Ведаеш, што нікога тут не павінна быць. І ўсё адно здаецца, што нехта нябачны, нячутны сочыць за табой з-за кожнага куста, з-за кожнай пакінутай будыніны. Бачна, што калісьці некалі ступала сюды нага чалавека, і не толькі нага. Мы ўбачылі на зарослай дарозе машынны след. Насцярожыла і тое, што ў такі багаты на ягады год усе кусты былі старанна абабраны. Няўжо ў некага хапіла сумлення прапаноўваць тыя "атрутныя" плады на рынках?! Не ведаю, як дзе, як хто, а сама і мае знаёмыя даўно не пытаюцца ў прадаўцоў ніякіх даведак. А дадзеныя раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі сведчаць, што ўсё менш раслінных прадукцыі, дароў лесу прыносяць валожынцы на радыелагічную экспертызу, на праверку. Заспакоіліся. Вораг - радыяцыя – нябачны.

***Наталля ШТЭЙНЕР***

*Фота Барыса САЧАНКІ*



## Закрываецца рух цягнікоў

**У сувязі з работамі па рэканструкцыі маста 17 і 19 кастрычніка закрываецца рух цягнікоў на перагоне Радашковічы – Дубравы. Адмяняюцца электрацягнікі: 17 кастрычніка адпраўленнем з Маладзечна ў 7-44, 8-27, 8-48, 9-52, 10-39, 13-02, 13-38, 14-31, 15-28, 16-27, 17-20, 17-50;**

**прыбыццём у Маладзечна ў 9-30, 10-05, 10-47, 11-42, 12-56, 13-50, 14-42, 15-28, 17-30, 18-05, 18-55, 19-30.**

**На гэты дзень назначаюцца электрычкі на ўчастку Маладзечна – Уша:**

**адпраўленнем з Маладзечна ў 9-00, 13-02, 17-50;**

**прыбыццём ва Ушу адпаведна: 9-35, 13-40, 18-25;**

**адпраўленнем з Ушы ў 10-00, 15-02, 19-05;**

**прыбыццём у Маладзечна адпаведна ў 10-35, 15-40, 19-40.**

**Электрацягнікі №№ 6113, 6140 будуць спазняцца.**

**19 кастрычніка адмяняюцца электрычкі адпраўленнем з Маладзечна ў 7-44, 8-27, 8-48, 9-52, 10-39, 13-02 , 13-38, 14-31, 15-28, 16-27, 17-20;**

**прыбыццём у Маладзечна ў 9-30, 10-05, 10-47, 11-42, 12-56, 13-50, 14-42, 15-28, 17-30, 18-05, 18-55.**

**Назначаюцца электрычкі Маладзечна – Аляхновічы:**

**адпраўленнем з Маладзечна ў 7-44, 8-48, 10-39, 13-02, 14-31, 16-27;**

**алпраўленнем з Аляхновіч у 8-47, 11-00, 13-08, 14-44, 16-48, 18-01.**

***За даведкамі звяртацца па тэл. 7-08-48, 78-4-23.***

**Перабудаваліся...**

## Святога ўжо не засталося

МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН. Памятаю, як у свой час зносілі ды руйнавалі цэрквы ды касцёлы. Памятаю, як руйнавалі могілкі і рабілі на іх месцы пляцоўкі для забудовы. Памятаю, як надмагільныя пліты цягалі да сябе ў падмурак.

Памятаю, як ішлі мы пад бел-чырвона-белым сцягам на старыя могілкі ў Плябані, дзе пахаваны паўстанцы Кастуся Каліноўскага. Памятаю, як у гэты дзень мы прыбіралі могілкі і непераможны бел-чырвона-белы сцяг лунаў над намі. І людзі, якія сустракаліся па дарозе, цікавіліся і ветліва пыталіся пра сцяг і пра могілкі. Думалася: "Мы дойдзем усё ж да Беларусі!"

Памятаю, альпіністы, якія ладзілі свае выпрабаванні на рэштках Плябанскага касцёла ( дзе, дарэчы, паўстанцы Каліноўскага хавалі сваю зброю), без крыўды і абразлівых слоў пакінулі гэта святое месца. Памятаю, як у гэтай будыніне пачаў стварацца музей паўстання...

А сёння даведаўся, што бронзавую дошку з камяня над магілай забітых паўстанцаў, скралі... З-за нейкіх там кілаграмаў "каляровага" металу.

***Валерый МАРКЕЛАЎ***

## Газеты пішуць, пакупнік не чытае, чытач не купляе

***Тэндэнцыя да змяншэння колькасці распаўсюджваемых газет набірае тэмпы. Усё больш перыёдыкі мясцовыя аддзяленні "Белдруку" вымушаны спісваць (працей кажучы, накіроўваць у макулатуру). Мы правялі невялікі аналіз становішча і высветлілі некалькі цікавых момантаў, наўрад ці вядомых масаваму чытачу.***

Вашу ўвагу адразу скіроўваем на тое, што лічбы (як і самі тэндэнцыі) могуць у некаторай ступені адрозніваецца па гарадах. За своеасаблівую базу мы ўзялі Маладзечна, дзе выдаецца "РГ". Галоўнае ж, горад дае найбольшы працэнт рэалізацыі перыёдыкі па Мінскай вобласці.

Такім чынам, існуюць выданні, попыт на якія практычна па ўсім рэгіёне амаль нулявы. Да іх можна аднесці "Дело", "Деньги", "Домовой", "Коммерсантъ", "Коммерсант Беларуси", "Беларусь", "На экранах Беларусі", "Несси", "Нестор-вестник", "Першацвет", "Агробизнес", "Белорусская торговая газета", "Бизнес-мост", "Компьютерная газета", "Компьютерные вести", "Нерухомасць", "Оптовик Беларуси", "Прессбол", "Туризм и отдых", "Тур-прес новости", "Календарь-справочник", "Ярмарка"...

Як бачыце, выданні, у асноўным, малавядомыя. Прычым спіс далёка не поўны. Аднак па некаторых гарадах слаба разыходзяцца і "Двое", "Совершенно секретно", "Вожык", "Вечерний Минск", "Знамя юности", "Имя", "Правда".

Прычыны самыя розныя. Вядома, асноўная - грошай у людзей малавата. А калі "Домовой" каштуе 24 тысячы рублёў, "Несси" - 10 тысяч, а некаторыя газеты (!) па 4-7 тысяч рублёў, то пра што можна гаварыць?

Вось і вымушаныя мясцовыя аддзяленні "Белдруку" штомесяц спісваць газеты і часопісы на некалькі мільёнаў рублёў. Толькі ў Маладзечне за верасень гэтая лічба склала 13,5 мільёна рублёў (у жніўні было нашмат меней, хаця таксама ж мільёны), у кастрычніку чакаецца прырост у 1,5-2 разы.

Праблему ўскладняе тое, што некаторыя выданні даюць у продаж значна большую колькасць экземпляраў у параўнанні з тым, што просяць аддзяленні "Белдруку". Гэта "Человек и собственность" (у тое ж Маладзечна даюць 450 экземпляраў замест 10), "Строительство и недвижимость" - практычна ўсё ідзе на спісанне. З больш вядомых выданняў занадта прапануюць сябе "Знамя юности", "Советский спорт", "Лучшие карикатуры Олега Попова", "Советский спорт", дзе-нідзе "Известия".

Паказальны ў гэтым сэнсе быў апошні месяц, калі практычна ўсе выданні чамусьці далі больш за прапанаванае аддзяленнямі.

"Рэгіянальную газету" амаль не спісваюць. Мы ўдзячныя за гэта сваім чытачам, але нагадваем, што ў некаторых гарадах "РГ" у кіёсках знікае амаль адразу пасля паступлення. Так што лепшае выйсце банальнае, як сусвет,- падпіска.

На заключэнне крыху цікавай інфармацыі. Найбольш маюць ад работы мясцовых аддзяленняў "Белдруку" абласныя ўпраўленні, чые даходы не ідуць у параўнанне з мясцовымі прыбыткамі. Маюць ад сваёй работы і кіяскёры, асабліва ад продажу дарагіх газет ды часопісаў. Лічбы называць не буду (помніце пра чужыя кішэні), але заўважу, што асобныя кіяскёркі маюць за месяц у 2-3 разы болей, чым іхнія начальнікі.

***Яўген РАДЗЕЦКІ.***

## "Капрызная, упартая"



*...Пад такой назвай у кафэ "Белы капрыз", што ў Маладзечне, амаль два тыдні праходзіла маляўнічае шоў з удзелам вядучага мадэльера Беларусі Сашы Варламава, лепшых манекеншчыц Мінскага тэатра моды і танцавальных лідэраў сталічнага начнога клуба "Манхэтэн".*

Наведвальнікі кафэ змаглі пазнаёміцца ў гэтыя дні з лепшымі айчыннымі і замежнымі ўзорамі адзення, бялізны. Зразумела, асноўная ўвага іх была скіравана на самых прыгожых манекеншчыц – Алену Кудрашову і Алену Бушуеву. Нагадаем, што на сёлетнім фестывалі "Славянскі базар" першая была ўдастоена высокага звання "Міс Славянка-95", другая – "Міс Зачараванне"

Таму з гледачоў, каму нешта з адзення прыйшлося даспадобы і ён пажадаў яго набыць, здзелку можна было аформіць адразу на месцы, не выходзячы з кафэ.

Увогуле, для маладзечанцаў такое прафесійнае шоў не ў навіну. Некалі раней у кафэ "Ля Гасцінца" збіраліся наведвальнікі, каб паглядзець не толькі на манекеншчыц, але і на вядомых артыстаў беларускай эстрады: Іну Афанасьеву, Аляксандра Саладуху, Ліку, іншых.

Магчыма, кіраўніцтва "Белага капрыза" вырашыла працягваць добрую традыцыю – запрашаць у госці ў Маладзечна сталічных зорак? Што ж, у добры шлях!

***Вячаслаў ТАБУЛІН***



***На здымках:** "Міс Славянка-95" Алена Кудрашова і "Міс Зачараванне" Алена Бушуева.*

***Фотарэпрадукцыі з каталога-энцыклапедыі "Супермадэль Беларусі".***

## З цацачнай машынай у гэтым садку даюць пагуляць толькі лепшым хлапчукам. У тых групах, дзе машынкі ёсць.

**ВІЛЕЙКА.** *Факт, вынесены ў загаловак — не ўтрыраванне рэчаіснасці. Так ёсць у дзіцячым садку №11 горада. І, магчыма, не толькі ў ім.*

З выхаванцамі садка я сустрэўся па ініцыятыве загадчыцы гэтай установы Ядвігі Клімовіч. Ядвіга Іванаўна, не першы год працуючы з дзеткамі, прыкладаючы максімум намаганняў з калектывам садка, дзеля выхавання маладога пакалення, з кожным днём усё больш і больш трывожыцца будучым малечы.

Дзеці не адказваюць за бацькоў. Але хіба гэта віна бацькоў, што працуюць яны на былым "флагмане" саюзнага антычнага прыборабудавання? Дакладней, каторы ўжо месяц не працуюць. Хіба можна назваць работай тое, калі станкі могуць не ўключацца не тыднямі, а месяцамі. Крызіс.

І гэты крызіс б'е па выхаванцах трох з дзесяці садкоў Вілейкі, чыя ведамасная прыналежнасць сёння зусім не радуе. Наадварот.

Стылыя дошкі падлогі ў ясельках (загадчыца ўсё хоча купіць хаця б пару- другую масляных радыятараў, ды грошай на рахунку аб'яднанай бухгалтэрыі – нуль). Прыгожыя некалі цацкі адведзены ім век перажылі шматкроць. Новыя – няма ж за што купіць.

Добра, калі ў групе знойдуцца дзеткі, чые таты рукастыя – колы для машыны прымайструюць, Мішку, якому лапу адарвалі, – аперацыю зробяць. Але ж ёсць факты і адваротныя. Выхавацелі разам з дзеткамі такім нялёгкім часам самі цацкі прылаўчыліся рабіць. З прыроднага матэрыялу. Шышачак, галінак... І не толькі цацкі. Пано ў калідоры. Ды вось толькі часам гэтыя тварэнні дзіцячых рук проста нехта крадзе. І ўсё ж аптымізм у вачах Ядвігі Іванаўны, выхавацеляў, з якімі я сустрэўся, ёсць. Ёсць спадзяванне, што знойдзецца хтось і дапаможа дзеткам:

– Мы і самі цацкі робім,– гаворыць Алена Іларыёнаўна Ушал.– Вось толькі каб нам якімі адыходамі ад швейнай вытворчасці дапамаглі. Мы б такіх набіўных лялек змайстравалі!

І змайструюць. Будзьце ўпэўненыя! А тым, хто хоча дапамагчы дзеткам, даю нумары тэлефонаў садка № 11 г. Вілейкі. 5-73-72, 5-62-93.

***Мікола ГАЙДУК***

### Вось так і жывем

## Нос, вуха... Што далей?

**МАЛАДЗЕЧНА.** *Ужо каля месяца жыхары мікрараёна "Лясныя" і вучні СШ № 9 любуюцца помнікам Леніну з адбітым носам і часткай вуха.*

Не спыняючыся на маральным аспекце гэтага акту вандалізму і адносін жыхароў і кіраўнікоў горада да гэтай асобы, не магу не адзначыць, што помнік не ўяўляе мастацкай каштоўнасці ,бо з'яўляецца звычайнай гіпсавай адліўкай, растыражаванай у 50-60- я гады.

У свой час было прынята рашэнне выканкома аб дэмантажы гэтага помніка, але да канца справа так і не дайшла. Мо цяпер улады ўсё ж дэманціруюць пакалечанага правадыра?

***Рыгор СЯМЁНАЎ***

## І такое здараецца

*20 верасня старшая медсястра абласнога дзіцячага санаторыя "Пралеска", што размешчаны ў вёсцы Ракаў Валожынскага раёна Людміла Глушонак заўважыла, што са службовага кабінета знік кашалёк, у якім знаходзілася 120 тысяч рублёў і 37 долараў ЗША, украдзены былі і два залатыя пярсцёнкі. Пацярпеўшая заявіла ў міліцыю.*

А праз два дні сюды з'явілася з пакаяннай жыхарка вёскі Міжрэчча, што непадалёк ад Ракава, І. і расказала, што ў кабінеце старшай медсястры "пагаспадарыла" яна.

Сам па сабе факт дзіўны, няўжо зладзейку замучыла сумленне?

***Наталля ШТЭЙНЕР***

### На заметку дылетанту

## Перш чым купіць іншамарку

***Аўтааматарам сёння можа назваць сябе амаль кожны. Многім давялося купляць у свой час іншамарку. Але нямногія ведаюць, што некаторыя прадаўцы часта "амаложваюць" на паперы прадаваемыя аўтамабілі. Тэхнічна зрабіць гэта нескладана, а ў выніку — магчымасць падняць цану.***

Між тым, год выпуску машыны ўстнаўліваецца з дапамогаю спецыяльнага 17-пазіцыйнага кода, які ёсць на кузаве іншамаркі. Знайдзіце на ім літару на 10-й пазіцыі і запомніце, які год адпавядае ёй.

| | |
|---|---|
| A - 1980 | Y - 1988 |
| B - 1981 | K - 1989 |
| C - 1982 | J - 1990 |
| D - 1983 | M - 1991 |
| E - 1984 | N - 1992 |
| F - 1985 | P - 1993 |
| G - 1986 | R - 1994 |
| H - 1987 | S - 1995 |

**АЛЕ:** у "Форда" літара, якая адпавядае году выпуску, стаіць на 11-й пазіцыі; японцы ж не заўсёды прытрымліваюцца такой сістэмы: Усход – справа тонкая...

## Гэтых дзетак прырода абдзяліла здароўем. Ды толькі не талентам

**ВАЛОЖЫН.** Пяць дыпломаў прывезлі з тэлемарафона "Мастацтва і дзеці" выхаванцы Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната. Трэба адзначыць, што мастацкая самадзейнасць, якой кіруе настаўнік Дзмітрый Краскоўскі, тут заўсёды была на высокім узроўні, хаця ўсе яе ўдзельнікі - інваліды з дзяцінства, з невылечнымі хваробамі, накшалт дзіцячага цэрабральнага паралічу.

А ў заключным канцэрце, што праходзіў у тэатры музычнай камедыі і адначасова трансліраваўся па тэлебачанні, пакарылі гледачоў дуэт у саставе адзінаццацікласнікаў Аляксандра Радзевіча і Галіны Крот, якія выканаў песню "Лісты падаюць", і вучань 6 класа Вася Рудэнка з песняй "Не будзі мяне, мама".

***Наталля ШТЭЙНЕР***

